# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА–ПРУЖАНЫ

№ 5(216) 5—11 лютага 2000 г. | ГРАМАДСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАЕ ВЫДАННЕ, ВЫХОДЗІЦЬ СА СТУДЗЕНЯ 1997 г. | Цана — 50 руб.


*Чарку скваркай закусіў,*
*Грып загрыз цыбуляю,*
*"НДС" у абарот пусціў,*
*Грошы каб не мулялі.*



## ТРЫ ГАДЫ ЗА КРАТАМІ

4 лютага 1997 года быў арыштаваны і пазней асуджаны да 7 гадоў пазбаўлення волі дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання Уладзімір Кудзінаў. Ні на судзе, ні ўжо за турэмнымі кратамі сваёй віны (а яго абвінавацілі ў дачы хабару і спробе дачы хабару міліцыянерам) не прызнаў. Маёмасць фірмы "Івацэвічы", якую У. Кудзінаў узначальваў, была канфіскавана і нібы скрозь пальцы ўцякла. Вялікая падсобная гаспадарка "Гічыцы" напачатку была разрабавана і разламана, а цяпер там гаспадарыць Івацэвіцкае хлебапрыёмнае прадпрыемства. Офіс фірмы з пяці пакояў прададзены за 1,5 тысячы долараў (цяпер тут размешчаны фонд сацыяльнай абароны насельніцтва). Ці пабагацела ад усяго гэтага дзяржава і, у прыватнасці, Івацэвіцкі раён? Пытанне, адказ на якое відавочны. У былым магазіне У. Кудзінава ў Івацэвічах (кудзінаўскім, як яго называюць да гэтай пары) чэргі за ліверам і збоем людзі займаюць на світанні...

● *РЭАЛІІ ДНЯ*

## Загадкі пра малако і мяса...

Наш народны прэзідэнт на нядаўняй нарадзе ў Магілёве падкрэсліў, што яшчэ доўга будзе існаваць калгасна-саўгасны лад, і, мауляў, гэта сапраўдны выратавальны круг ад краху сельгасвытворчасці, які напаткаў амаль усе краіны СНД. Дарэчы, у суседняй Літве, якая зусім нядаўна пазбавілася калгасаў і саўгасаў, зараз Беларусь купляе збожжа. Мы ж не задумваемся: чаму! А мы ўсё застаёмся на гэтым караблі, які імкліва тоне, нягледзячы на штогадовыя мільярдныя ўліванні для таго, каб часова маячыць на паверхні. Не больш і не менш.

Каб не быць галаслоўным, спашлёмся на выніке мінулага года.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## Нас усё менш

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Як ні балюча гаварыць аб гэтым, але ж гэта так. Колькасць жыхароў раёна з года ў год змяншаецца. Не быў выключэннем і мінулы год. Так, летась нарадзілася 650 немаўлят, а памерла 1058 чалавек. Няцяжка падлічыць, што насельніцтва раёна паменшала на 408 чалавек. Можна сказаць, што за адзін год бясследна зніклі такія вёскі як Сенькавічы і Боркі. Ці не праўда шкада? А што ж з намі будзе далей, калі колькасць шлюбаў не расце, а, наадварот, ідзе на змяншэнне...

*Алесь САШЫН.*

## Эпідэмічны парог пераступлены

Сітуацыя з захворваннямі на грып і ВРВІ падышла да крытычнай рысы. У некаторых раёнах нашага рэгіёна адпаведныя службы аб'явілі, што сітуацыя — перадэпідэмічная, а ў Івацэвіцкім раёне аб'яўлена аб эпідэміі.

Як паведамляе галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Івацэвіцкага раёна **А. А. Ковыш**, вышэйзгаданы парог (калі колькасць захварэўшых на ВРВІ перавысіце звычайныя паказчыкі ў 3,3 разы) ужо пераступлены. Аб'яўлена аб эпідэміі, уведзены цэлы шэраг мерапрыемстваў па спыненні інфекцыі. Па словах галоўнага ўрача, захворванні на грып носяць спарадычны характар, ёсць вялікі рост іншых рэспіраторных вірусных інфекцый.

У Пружанах, як сцвярджае загадчык эпідэміялагічнага аддзела **П. М. Чайкоўскі**, эпідэмічны парог перавышаны ў два разы. Пад асаблівы пільным кантролем — школы, садкі, лячэбнапрафілактычныя і аздараўляльныя ўстановы.

У Бярозе, як сцвярджае загадчык эпідэміялагічнага аддзела **В. В. Дайнека**, сітуацыя таксама набыла перадэпідэмічны характар.

У Баранавічах, па словах загадчыка эпідэміялагічнага аддзела **В. Д. Шахрая**, сітуацыя мае перадэпідэмічны характар. Прыкладна два тыдні як ёсць перавышэнне ў два разы. Размова ідзе аб тэрмінах ўвядзення карантыну ў тых установах, дзе збіраецца шмат людзей.

*Аляксандр ГОРБАЧ.*

## Музей старшыні

**БАРАНАВІЧЫ.** Створан музей, прысвечаны жыццю і дзейнасці таленавітага гаспадарніка і кіраўніка, Героя Сацыялістычнай Працы Багуслава Багданавіча Вільчкоўскага. Экспанаты размясцілі ў былой канторы гаспадаркі, дзе ад бандыцкай кулі позні восеньскім вечарам 27 лістапада 1964 года абарвалася жыццё старшыні калгаса. Органы дзяржаўнай бяспекі знайшлі забойцу, народны суд прыгаварыў яго да вышэйшай меры пакарання.

Удзячныя нашчадкі захоўваюць памяць пра Б. Б. Вільчкоўскага. Яго імем названы калгас, дзе ён працаваў старшынёй, названа цэнтральная вуліца ў вёсцы Малая Сваротва, тут устаноўлены яго бюст.

Урачыстае адкрыццё музея адбылося ў дні святкавання 50-годдзя ўтварэння калгаса імя Б. Вільчкоўскага.

*Галіна СТРОЦКАЯ.*



## Добравольна — прымусова

**БЯРОЗА.** Вельмі здзівіліся медыцынскія работнікі Малечскай бальніцы, калі ў панядзелак, 31 студзеня (зноў жа са спазненнем) прыйшлі атрымаць свой студзеньскі аванс. Як у лепшыя савецка-сталінскія часы, з іх у "добраахвотна — прымусовым" парадку вылічылі грошы на дабрачынныя білеты ў падтрымку Расійскай праваслаўнай царквы (яе беларускага экзархату) коштам 100 тысяч рублёў (недэмінаваных). Лекары атрымалі па 3 білеты, медсёстры — па 2, санітаркі - па аднаму. Напэўна, многія пагадзіліся б даць і большыя грошы на развіццё сваёй царквы, але людзей абурыла, што ніхто і не падумаў спытаць іхняй згоды, як распарадзіцца сродкамі з іх зусім невялікіх заробкаў (і пацікавіцца іх канфесійнай прыналежнасцю). Такія ж "добраахвотныя" зборы зроблены і ў іншых медыцынскіх і немедыцынскіх установах раёна.

*Сяржук РУСЕЦКІ.*

## Местный ремонт — немецким комбайнам

**БАРАНОВИЧИ.** Специалисты завода автоматических линий за зимний период отремонтируют половину зерноуборочных комбайнов Е-516 и Е-517 производства бывшей ГДР, имеющихся в хозяйствах Брестчины. Они уже передали колхозам и совхозам области 22 восстановленные машины, а к концу февраля намерены завершить ремонт еще 19.

Барановичские станкостроители в короткие сроки создали на своем предприятии мощную и современную ремонтную базу, сами наладили производство многих запчастей для комбайнов, которые показывают довольно неплохую эффективность на жатве, но за 10—15 лет работы поизносились и вышли из строя. Мощности этой ремонтной базы позволяют восстанавливать в месяц 20—25 таких агрегатов. При этом станкостроители гарантируют, что 3—4 года после их ремонта комбайны смогут нормально работать.

Кстати, на предприятии намерены восстанавливать не только комбайны земледельцев Брестчины, но и других областей республики.

*Иван КУКСА.*

● *ДЗЯРЖАВА І ПРАДПРЫМАЛЬНІК*

## Чарговая забастоўка

Процістаянне дзяржавы і прадпрымальнікаў, відаць, на гэты раз дабром не скончыцца. Ні адзін з бакоў пакуль не хоча ісці на ўступкі: прадпрымальнікі выступаюць за адмену абавязкова бухгалтарскага ўліку для асоб, якія ўплацілі фіксаваны стаўкі падаткаў, супраць падатку на дабаўленую вартасць, абавязковай сертыфікацыі і гігіенічнай рэгістрацыі, за спыненне вымагальніцтва і паборау з боку дзяржаўных чыноўнікаў, падатковых кантралёраў, адміністрацыі рынкаў, міліцыі.

А дзяржава гэтых патрабаванняў не прызнае. У выніку — забастоўка.

Так, амаль поўнасцю апусцелі рынкі ў Баранавічах, Бярозе, Івацэвічах, Пружанах. У Івацэвічах 3 лютага гандлем працягвалі займацца пара-тройка бабулек ды жменька украінцаў, гандлюючых салам і алеем, якія, відаць, зусім знянацку былі захоплены гэтай забастоўкай.

Відавочна, што толькі час дасць адказ на тое, наколькі загартаваны бясконцым змаганнем з уладамі шэрагі прадпрымальнікаў. Ясна толькі адно: у нашых магазінах купляць няма чаго і простаму пакупніку без прыватнага гандлю давядзецца цяжка.

*Аляксандр ГОРБАЧ.*
*Фота Аляксея ГАНЧУКА.*

## Пасмяёмся разам з...

*вядучым конкурсаў прыгажосці і гармоніі "Газеты для вас" Аляксандрам Горбачам:*

Рэдактар мясцовага чырвонага "весніка" падыходзіць да валютчыка на рынку:
— 50 долараў возьмеш?
— Вазьму.
— Пачым?
— Па пяцьсот.
— Ты-ы што! Усе ж па 880 купляюць!
— Ва ўсіх долары нармальныя, а ў цябе — крывавыя!

## НАДВОР'Е Ў ВЫХАДНЫЯ ДНІ

захаваецца воблачнае, з праясненнямі. Днём месцамі ападкі ў выглядзе снегу з дажджом. Вецер заходні, 7—10 м/с. Тэмпература паветра ўдзень да 5 градусаў цяпла, уначы — да 5 градусаў ніжэй нуля.

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Эколагі занепакоены

*Звыш за 6 тысяч праверак выканання прыродаахоўнага заканадаўства правялі летась супрацоўнікі Брэсцкага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. У выніку былі выяўленыя звыш за 4 тысячы парушэнняў і накладзена штрафаў больш чым на 3 мільярды рублёў.*

Па-ранейшаму непакоіць эколагаў забруджванне навакольнага асяроддзя прамысловымі адходамі. Нягледзячы на тое, што многія з прадпрыемстваў абсталяваныя ўстаноўкамі па абясшкоджванні дрэнных выкідаў, парушэнні рэгіструюцца ў вялікай колькасці. Летась сямі прадпрыемствам за парушэнне адпаведных нарматываў былі прад'яўлены іскі на суму больш чым 1,2 мільярда рублёў.

Недастаткова ачышчаюцца і тыя адходы, якія прадпрыемствы выкідваюць у рэкі. Напрыклад, з 33 збудаванняў біялагічнай ачысткі вады ў вобласці пяць працуюць неэфектыўна. У выніку чаго ў паверхневыя воды ў 1999 годзе было скінута 4,3 мільёна кубаметраў неачышчаных стокаў. Асабліва неспрыяльная сітуацыя склалася ў Бярозе, дзе кожныя суткі ў Ясельду скідваецца больш за 20 тысяч кубаметраў брудных рэчываў.

## Эх вы, цэны-скакуны

*Па даных Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, за першыя тры тыдні студзеня рост спажывецкіх цэн у краіне склаў 10,9 працэнта (у тым ліку за першы тыдзень — 3,8 працэнта, за другі — 1,7, за трэці — 5 працэнтаў).*

Варта нагадаць, што, згодна з прагнозам сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2000 год, рост цэн не павінен перавышаць 5,5 працэнта ў месяц.

Для параўнання: за першыя тры тыдні снежня 1999 года цэны выраслі на 9,9 працэнта, за першыя тры тыдні студзеня 1999 года — на 17,4 працэнта.

## Скаргі разгледжаны

*Камітэт Міжпарламенцкага саюза (МПС) па правах чалавека ў дачыненні да парламентарыяў зняў большасць прэтэнзій да беларускага боку, якія датычацца парушэнняў правоў дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Пра гэта 1 лютага падчас сустрэчы з журналістамі паведаміў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, намеснік міністра ўнутраных спраў — начальнік следчага камітэта МУС Леанід Глухоўскі. Ён браў удзел у апошнім пасяджэнні згаданага камітэта МПС, якое адбылося нядаўна ў Жэневе (Швейцарыя).*

Паводле слоў Л. Глухоўскага, у камітэт МПС паступіла агульным лікам 11 скаргаў аб парушэнні правоў дэпутатаў Вярхоўнага Савета розных скліканняў — Станіслава Шушкевіча, Мечаслава Грыба, Станіслава Багданкевіча, Паўла Знаўца, Людмілы Гразновай, Сямёна Домаша, Пятра Краўчанкі, Васіля Новікава, Валерыя Шчукіна, Андрэя Клімава, Уладзіміра Кудзінава, а таксама скарга наконт знікнення першага віцэ-спікера Вярхоўнага Савета 13-га склікання Віктара Ганчара.

На сёння, сказаў намеснік міністра ўнутраных спраў, прэтэнзіі МПС засталіся толькі па скаргах А. Клімава, У. Кудзінава, В. Шчукіна і В. Ганчара. Што да А. Клімава, то, паводле слоў Л. Глухоўскага, зараз камітэт МПС чакае заканчэння суда па яго справе, каб азнаёміцца з прыгаворам і ўжо тады рабіць высновы. У дачыненні да У. Кудзінава членаў камітэта непакоіць, ці будзе перагледжана яго справа ў бок змякчэння прысуду. Рэч у тым, што новы Крымінальны кодэкс прадугледжвае больш мяккае пакаранне за злачынства, у якім абвінавачаны У. Кудзінаў (дача хабару).

Акрамя таго, члены камітэта МПС маюць намер сачыць, як будзе развівацца следства па справе аб знікненні першага намесніка ВС 13-га склікання Віктара Ганчара.

## Што адпужвае нямецкіх інвестараў

*"Нямецкія бізнесмены гатовы супрацоўнічаць з вашай краінай, аднак яны не давяраюць абставінам. Асабліва цяжка ім ва ўмовах зменлівай прававой базы", — заявіў Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Германіі ў Беларусі Хорст Вінкельман падчас сустрэчы з кіраўніком Брэсцкага аблвыканкама Уладзімірам Заламаем увечары 31 студзеня. У гэты дзень пасол прыбыў у Брэст з азнаямленчым візітам.*

На сустрэчы ў аблвыканкаме ён задаваў дастаткова вострыя і канкрэтныя пытанні. Хорста Вінкельмана асабліва цікавіла, як жыхары Брэсцкай вобласці ставяцца да Саюза Беларусі і Расіі і ці не клапоціць іх магчымая страта суверэнітэту краіны. Апрача гэтага, пасол высвятляў, як на тэрыторыі вобласці ўжываюцца прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў і рэлігійных канфесій, якія ў вобласці існуюць сувязі з замежнымі дзяржавамі і, у прыватнасці, з Польшчай, наколькі паспяховая дзейнасць Брэсцкай вобласці ў складзе еўрарэгіёна "Буг".

**(БелаПАН).**

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## "ПАЗВАНІЦЕ ПАСЛЯ АБЕДУ..."

*— "Газета для вас!" Дапамажыце высветліць, чаму ў Паўночны мікрараён Івацэвічаў час ад часу перастала ездзіць машына-смеццявоз? У мінулы панядзелак, напрыклад, таксама не прыехала. Спрабавалі званіць у РВА ЖКГ. Дыспетчар адсылае да дырэктара ці галоўнага інжынера, а тых нікалі па названых нумарах не застанеш. А так хацелася б задаць ім два пытанні:*

*1) куды падзець смецце, якое збіраецца за выхадныя дні?*

*2) ці будзе ўсім жыхарам мікрараёна зроблены пераразлік за невыкананую камунальную паслугу, а дакладней, за нявываз смецця. Грошы РВА ЖКГ бярэ з нас рэгулярна і ў поўным аб'ёме.*

***Святлана Мікалаеўна, Ірына Васільеўна, г. Івацэвічы.***

ххх

Паспрабавалі і мы задаць пытанні нашых чытачоў работнікам РВА ЖКГ. Дыспетчар А. М. Догуш адразу накіравала нас да дырэктара ці галоўнага інжынера. Пасля некалькіх спробаў тэлефон адазваўся ў галоўнага інжынера П. П. Грушыка. Задаем яму названыя пытанні.

— Ну, што зробіш, калі смеццявозы ў нас старыя. Сапсавалася машына — вось і не прыехала.

— Але ж у кожнай кватэры пасля двух выхадных збіраецца шмат смецця. Людзі пытаюцца, куды яго выкідваць?

— Ну я ж сказаў: машына сапсавалася.

— Тады адкажыце, калі ласка, на другое пытанне — наконт аплаты паслугі, якой няма.

— Пазваніце праз некалькі гадзін, пасля абеду...

А пасля абеду тэлефон у галоўнага інжынера, як вы разумееце, не адказваў...

Мо і тэлефон у РВА ЖКГ сапсаваўся? Думаецца, што ўсе няспраўнасці тут будуць да той пары, пакуль мы з вамі будзем плаціць грошы за паслугу, якой не маем.

***Наталля КАПЫЦІЧ, г. Івацэвічы.***

ЮБІЛЕІ

## 10 гадоў — тэрмін немалы

**БАРАНАВІЧЫ.** У горадзе прайшла святочная імпрэза, прысвечаная 10-годдзю Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Удзельнікаў віталі са сцэны старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Алег Трусаў, Баранавіцкі гурт вандроўных музыкаў "Фэст", вядомы беларускі бард Віктар Шалкевіч.

Свята атрымалася. І ўсё ж цяжка не пагадзіцца з адным выступоўцам, які пажадаў усім наблізіння таго дня, калі такую арганізацыю, як Таварыства беларускай мовы, можна будзе распусціць, бо дзяржава, нарэшце, сама возьме на сябе клопат аб сваёй мове.

***Алесь ГОРБАЧ.***

КРЫМІНАЛ

## Чацвёра на аднаго

**БАРАНАВІЧЫ.** Пасля бурнай ночы, праведзенай за распіццём спіртных напояў, чацвярым маладым людзям з Баранавічаў захацелася пакатацца. У 6 гадзін раніцы яны выйшлі на вуліцу і спынілі таксі. Вадзіцель згадзіўся адвезці іх у другі мікрараён. Прыбыўшы на месца, замест платы яны прыставілі нож вадзіцелю, звязалі яго і запіхнулі на задняе сядзенне. Знайшоўшы сем мільёнаў рублёў у кішэні шафёра, яны рушылі далей па шашы ў напрамку Мінска. Чужыя грошы хутка растрацілі, набыўшы ў адной з прыдарожных крамаў моцныя напоі і закуску. Ізноў пілі. Вадзіцеля, які адмаўляўся гэта рабіць, сілком лілі вадкасць у рот.

Паездка з вецярком закончылася ў Нясвіжскім раёне. Не справіўшыся з кіраваннем, п'яны самазванец урэзаўся ў дрэва. Пра дарожна-транспартнае здарэнне паведамілі ў міліцыю жыхары вёскі. Аўтаінспектары, што аператыўна прыехалі на месца здарэння, засталі чацвярых у машыне. Яны нават не спрабавалі ўцякаць, настолькі былі нецвярозыя.

Вядзецца следства. Круты квартэт будзе адказваць перад законам за разбой.

***Галіна СТРОЦКАЯ.***

## Крадзеж за крадзяжом

**ІВАЦЭВІЧЫ.** У кожнага злодзея свой стыль "працы". Гэта могуць засведчыць ахвяры цэлай хвалі крадзяжоў, якая пракацілася па Івацэвіцкім раёне ў апошнія дні.

У хляўчук настаўніцы-пенсіянеркі Т. з райцэнтра злодзей трапіў уначы. Яго здабычай сталі 4 курыцы і певень.

Зайздросную фантазію і вынаходлівасць праявіў злодзей у Даманаве. Для здзяйснення сваіх цёмных спраў яму давялося абясточыць электрасігналізацыю і пабіць замкі, каб трапіць у краму. Зламыснік аказаўся з вытанчаным густам: ён узяў з сабой каньякі, кілбасу "Сервілат", дарагія віны, цыгарэты.

Не з пустымі рукамі вярталіся пасля вячэрняй дойкі тры даяркі калгаса "Пагор'е". Адна несла вядро мукі, дзве другія — па некалькі літраў малака. Яшчэ аднаго раскрадальніка сацыялістычнай уласнасці, як называлі такіх людзей калісь партыйная прэса, застукаў участковы міліцыянер са сваімі памочнікамі ля калгасных буртоў. Жыхар в. Пагор'е М. Петручэня намасціў два мяхі буракоў, але пабачыўшы чалавека ў форме з незнаёмымі людзьмі, пусціўся наўцёкі, кінуўшы веласіпед і буракі.

***Аляксандр ЛАЎРАНЮК.***



ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ

## Праблема з "барадой"

**БЯРОЗА.** Як толькі ўзімку пачынаецца адліга (ці падчас дажджоў у іншую пару года), па "маленькаму" базарчыку Бярозы амаль немагчыма прайсці, каб не зачарпнуць у абутак вады. Гандляры, каб пакупнікі маглі падысці да іх прылаўкаў, вымушаны падкладваць розныя дошкі, паддоны. Праблема, як кажуць, з барадою. У свой час з прыватных гандляроў бралі немалыя грошы, каб заасфальтаваць пляц на базарчыку, але зусім не паклапаціліся, каб зрабіць сцёкі. І цяпер, збіраючы зусім не маленькія сумы за месцы і за стаянку аўтамабіляў, адміністрацыя рынку не надта клапоціцца, каб да гэтых месцаў хоць можна было б падысці. Магчыма, яе гэта і хвалюе, але нейкіх вынікаў гэтага хвалявання не відаць ужо каторы год. Не цікавіць, напэўна, такі стан і работнікаў цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, хоць яны ніколі не забудуць аштрафаваць тых жа гандляроў, калі нехта забудзецца ўзяць санітарную кніжку ці за санітарны стан вакол.

Праўда, сёння гэтая праблема не такая актуальная для пакупнікоў. Бо хоць лужы і стаяць на базарчыку, ды ісці туды няма чаго. Прыватныя гандляры страйкуюць.

***Сяржук РУСЕЦКІ.***

СПОРТ

## Паказалі клас ветэраны

**БЕЛААЗЁРСК.** Закончылася першынство горада па міні-футболу, у якім бралі ўдзел 10 каманд. Першае месца заняла каманда ветэранаў, другое — прадстаўнікі гарадскога аддзела міліцыі, трэцяе — футбалісты ДРЭС.

***Раіса ЖМАЧЫНСКАЯ.***

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 3.02.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 1000—2000 | 1600—2300 | 1000—1700 | 1200—1700 |
| Сала салёнае | 1100 | 1300—1500 | 1100 | 1000 |
| Алей (1 л) | 650—750 | 660—900 | 600—750 | 660—750 |
| Яйкі | 450—500 | 400—450 | 450 | 440—450 |
| Малако (3 л) | 280 | 280 | 280 | 250 |
| Тварог | — | 400 | 320 | 360 |
| Масла сметанк. | 1000 | 1500—1800 | 1200 | 1200 |
| Цыбуля рэпч. | 190 | 190 | 190 | 180 |
| Капуста | 80 | 70—90 | 70—80 | 90 |
| Бульба | — | 70—80 | 100 | 85 |
| Морква | 100 | 250 | 90—100 | 120 |
| Буракі стал. | — | 60—100 | 60—70 | 80 |
| Яблыкі | 400—500 | 420—800 | 400—500 | 600 |
| Грушы | 900 | 1300 | — | 900 |
| Вінаград | — | 1300—2800 | — | — |
| Грэцкія арэхі | 650 | 700—800 | 650 | 720 |
| Часнок (1 шт.) | 40—60 | 100—120 | 60 | 50—60 |
| Лімоны | 1200 | 980—1000 | 1200 | 1200 |
| Апельсіны | 750 | 600—700 | 750 | 880 |
| Бананы | 700 | 600—750 | 750 | 880 |
| Мандарыны | 850—900 | 870—750 | 900 | 900 |
| Грэчка | 600 | 600 | 650 | 650 |
| Макар. вырабы | 270—350 | 300—350 | 280—350 | 250 |
| Рыс | 450 | 420 | 380—440 | 450—480 |
| Манныя крупы | — | 330 | 380 | 350 |
| Проса | 300 | 300 | 340 | 300 |
| Цукар | 260 | 260—280 | 270 | 270 |
| Мёд | 2.400 | 2.400 | 1—3 тыс. | 2300 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 860 | 900 | 880 | 920 | 880 | 920 | 880 | 920 |
| 1 дойчмарка | 430 | 450 | 440 | 460 | 440 | 460 | 450 | 475 |
| 1 рубель Расіі | 30 | 32 | 30 | 33 | 30 | 35 | 30 | 32 |

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## Калі з'явяцца камеры для хавання багажу?

***— "Газета для вас?" Даведайцеся, калі ласка, калі ў Івацэвічах з'явяцца камеры для хавання багажу. Неяк прыехаў з Баранавіч — і цэлы дзень цягаў з сабой торбы. Думаеце, лёгка іх цягаць? Пачаў прасіць у білетных касіраў аўтавакзала, каб дазволілі паставіць у іх пакоях, але мне адмовілі, сказаўшы, што "здесь вам не камера хранения".***

*Аляксандр ПАДГОРНЫ, в Магіліцы, Івацэвіцкі раён.*

***На пытанне чытача адказвае А. У. ХАЙКО, начальнік Івацэвіцкай чыгуначнай станцыі:***

— Мы разумеем тое, наколькі цяжка пасажырам абыходзіцца без гэтай паслугі, і ў перспектыве збіраемся разглядзець магчымасць устанаўлення камераў на станцыі. Вы ж памятаеце, што, як пачалі мяняцца грошы, то і зніклі тыя пятнаццацікапеечныя манеты, без якіх камеру ні адкрыць, ні зачыніць.

Збіраемся адкрыць багажнае аддзяленне, за якое адказваў бы касір, але ж, зразумейце, тут ёсць свае нюансы: не заўсёды касір можа адарвацца ад сваёй непасрэднай работы — чэргі часам стаяць да касы, найчасцей яны ўзнікаюць за 15—20 хвілінаў да прыходу электрычак. А ўзяць лішнюю адзінку немагчыма: размовы ўвогуле ідуць аб скарачэнні штатаў.

Але пытанне ў нас, так бы мовіць, на кантролі. І думаем, што вышэйзгаданая паслуга з цягам часу з'явіцца.

КОНКУРСЫ

## "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ОЛЬГА, по гороскопу — Дева. Свободное время люблю проводить на танцах. Мой кумир — Иван Кучин, любимый стиль — шансон.*

*Нравятся сильные, добрые мужчины. Считаю, что главное — был бы человеком хорошим тот парень, на котором выбор остановится.*

## "СЯБРЫ ГАРМОНІІ І ШТАНГІ"



*ІГАР, па гараскопу Леў. Куміраў няма. Вольны час праводжу ў спартыўнай зале, рэстаране, люблю прагулкі на свежым паветры.*

*Падабаюцца жанчыны кшталту маёй жонкі, якую кахаю.*

РЭАЛІІ ДНЯ

## ЗАГАДКІ ПРА МАЛАКО І МЯСА...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Так, поўнасцю правалена ўся праграма ў раслінаводстве. Зусім нізкі ўраджай усіх сельгаскультур. Выкананы толькі зменены дзяржзаказ па збожжы. Але ж якой цаной? У гаспадарках амаль не засталося фуражнага зерня. У многіх з іх няма патрэбнай колькасці насення, не гаворачы ўжо пра яго якасць. А не за гарамі вясна.

Вялікія і малыя чыноўнікі тлумачаць провалы ў раслінаводстве дрэннымі кліматычнымі ўмовамі. Але ж такое ж надвор'е не перашкодзіла вяскоўцам і гараджанам вырасціць на сваіх участках добры ўраджай, напрыклад, той жа бульбы. Яе нават збыць было цяжка: усе, хто хацеў, не мог прадаць дзяржаве. Улады нават не здольны былі арганізаваць як след яе закуп, таму шмат "другога хлеба" вывезена і вывозіцца за межы рэспублікі.

Ад спраў у раслінаводстве напрамую залежаць справы ў жывёлагадоўлі. Якія ж тут поспехі?

Ужо загадзя было вядома, што чакаць высокіх паказчыкаў не прыйдзецца. Заведама жывёлагадоўля была аддадзена на выжыванне. Нягледзячы на шумную кампанію па нарыхтоўцы кармоў (сюды падключылі гараджан і працоўныя калектывы), назапасіць патрэбную колькасць сена, сенажу і сіласу не ўдалося. Толькі каля 70 працэнтаў. Адкуль тады ж быць прадукцыі? Яе і няма. Так, план продажу малака дзяржаве выкананы на 85 працэнтаў. Надоена ад кожнай каровы па 2214 кілаграма малака, на 401 кілаграм менш, чым у 1998 годзе. Усе гаспадаркі раёна далі мінус па надоях малака. Такая "аднадушнасць" наводзіць на сумны роздум і не ўсяляе ніякай надзеі, што справы могуць палепшыцца.

Напрыклад, ужо ў студзені гэтага года ад каровы штодзённа надойвалі па 4,6 кілаграма малака. Гэта на 0,8 кілаграма менш, чым за такі ж перыяд летась. Тым не менш, афіцыйная раённая прэса сцвярджае: "Але важна тое, што прадукцыйнасць жывёлы ў апошні час не падае". Сапраўды, дзе знайсці такіх пародзістых кароў, калі надоі ад іх увесь час падаюць, а прадукцыйнасць, нягледзячы ні на што, расце. Такая загадка ў малочнай галіне. Відаць, яе і будуць разгадваць сёлета.

Калі ж гаварыць пра мінулагодні вынікі работы ў мясной жывёлагадоўлі, то зноў жа тут свае загадкі. Памяркуйце самі. Кармоў амаль няма. Жывёла прыбаўляе ў вазе па 277 грамаў у суткі, на сто грамаў менш, чым пазалетась. Рэалізавана жывёлы ў забойнай вазе 90 працэнтаў да 1998 года. А тым часам план продажу дзяржаве мяса перавыкананы. Ведай нашых! Якую ж жывёлу здавалі на мясакамбінаты? Колькі яе прырэзалі і таксама здалі? Гэтыя лічбы не афішуюцца. А ці аналізуюцца яны? Відаць, не. Бо справы ў мясной жывёлагадоўлі, як і ў малочнай галіне, з кожным годам імкліва пагаршаюцца і ніякіх перспектыў на паляпшэнне не відаць.

Ужо зараз зноў вядзецца прапагандысцкая кампанія па прыцягненню гарадскога насель-ніцтва і сельскай інтэлігенцыі да нарыхтоўкі кармоў на будучую зімоўку жывёлы. Нават павялічаны нормы назапашвання сена на аднаго чалавека. Не ад добрага жыцця гэта робіцца.

Цяпер з Гродзеншчыны возяць салому ў Віцебскую вобласць, каб неяк пратрымаць жывёлу да вясны. А ў асобных гаспадарках паўночнай часткі рэспублікі жывёлу перавозяць у іншыя месцы — няма тую грамадскую худобу чым карміць. Вось так па-ўдарнаму папрацавалі летась.

Адна з вастрэйшых праблем сённяшняй калгаснай вёскі — рабочая сіла. Ужо не выклікае здзіўлення той факт, што нават у аддаленых населеных пунктах раёна ў гаспадарках не хапае даярак, даглядчыкаў жывёлы, трактарыстаў, паляводаў... Сельская жыхары, асабліва моладзь, пакідаюць калгасы, бо заробкі такія мізэрныя, што за іх нельга пракарміць сям'ю, не гаворачы ўжо пра адзенне, абутак, мэблю. Калгасна-саўгасная сістэма ўжо, можна сказаць, аджыла сваё, яна паўсюдна развалілася, але ўлады па-ранейшаму трымаюцца за яе. А пра рэфармаванне сельскай гаспадаркі, якое даўно наспела, пакуль што ідуць адны размовы. Без яго, карэннага рэфармавання, нельга адрадзіць нашу вёску, удыхнуць у яе новае жыццё.

*Канстанцін ДЗЯМЧУК.*
*г. Івацэвічы.*

ПАВЕДАМЛЯЕ БелаПАН

## Для А. Лукашенко интеграция превращается в западню

26 января в Андреевском зале Кремля прошла торжественная церемония обмена ратификационными грамотами, свидетельствующими, что Договор о создании Союзного государства России и Беларуси утвержден парламентами. На взгляд нашего обозревателя, тем самым сделан еще один шаг к аншлюсу. Но еще не все потеряно. На самом деле борьба вступает в новую фазу. Ведь политическая интрига между Минском и Москвой сделала поворот. Возникли новые обстоятельства в виде неожиданной отставки Ельцина и досрочных президентских выборов в России.

Вместо похода на Москву Александру Лукашенко теперь надо думать о том, как укрепить кресло в Минске. Из шумной популистской идеи, с помощью которой он намеревался завоевать российский электорат, интеграция превращается в западню для его удельной автократии. В затеваемом союзном государстве России и Беларуси власть Минска не может быть больше или даже равна власти Кремля. Кость, которую ему оттуда бросают в виде поста председателя Высшего совета союза, ничего не стоит, поскольку этот пост не дает права на единоличные решения в союзных делах. В. Путин – это не дряхлый Б. Ельцин. Владимир Владимирович и компания будут добиваться если не капитуляции, то безоговорочного послушания. Они пойдут на любые тяжкие, чтобы найти способ поставить на место всякого, кто захочет вести самостоятельную игру.

В создавшейся ситуации не помешает (если еще не поздно) поддерживать некоторую дистанцию с Москвой. Ради этого не грех поэксплуатировать идею белорусской независимости. Вот почему в самый канун 2000 года из уст плохо скрывавшего свою растерянность и досаду А. Лукашенко белорусские граждане услышали слова, которые больше подходят белорусскому национал- патриоту. Спеша выдать желаемое за действительное, А. Лукашенко произнес своего рода панегирик по поводу белорусской независимости. "Страна все больше укрепляется как суверенное государство, которое проводит самостоятельную и независимую линию. Многим на Западе, да и на Востоке, не нравится такая самостоятельность. Но мы не можем поступиться национальными интересами. Мы сами знаем, как нам жить в собственном доме и каким образом его обустраивать".

Подумать только, оказывается, на Востоке тоже суют нос в наши дела. Лучшей мелодии для ушей белорусских национал-патриотов и не придумаешь. Последним не повредило бы задуматься над тем, как воспользоваться такого рода настроениями человека, все еще определяющего внешний курс Беларуси и принимающего судьбоносные для нее решения.

Однако надо было видеть и слышать, как нелегко давалась ему торжественная речь по поводу официального вступления в силу союзного договора, произнесенная им 26 января в Кремле. Что-то в нем печалилось и сопротивлялось, говорило: это далеко не тот результат, какого я добивался. А на состоявшейся в тот же день совместной с В. Путиным пресс-конференции А. Лукашенко местами и вовсе выглядел раздраженным. Особенно когда речь зашла об отставании Беларуси в темпах проведения реформ. Главный чиновник страны уже не так безумно одержим желанием слиться в братском экстазе со "старшим братом". Это означает, что устремления белорусских национал-демократов, рассматривающих борьбу за государственный суверенитет как главный приоритет текущего момента, и политическая тактика А. Лукашенко на нынешнем этапе имеют точки соприкосновения.

В связи с вышесказанным рискнем озвучить тезис, который далеко не очевиден и многим покажется невероятным. В сложившихся обстоятельствах белорусская национально- демократическая оппозиция представляет для А. Лукашенко не столько проблему, сколько политический ресурс. Действующая в системном политическом процессе страны, она при определенных условиях может стать ему более или менее надежным политическим прикрытием. Сегодня белорусские демократы, быть может, единственная сила, способная помочь ему защититься от Москвы. Уже с лета А. Лукашенко стал осознавать, что разыгрывать из себя короля он может только в Минске, на московских подмостках ему отводят функцию пешки. Борьба за прохождение собственной редакции подписанного в конце 1999 года Договора о создании союзного государства Беларуси и России стала последней по времени отчаянной попыткой А. Лукашенко обставить белорусско-российское объединение условиями, которые выводили бы его на выгодные стартовые позиции в гонке за кресло кремлевского хозяина. Эта попытка, как и предыдущие, не удалась.

*Вячеслав ОРГИШ, доктор философских наук.*

*Гэтыя нататкі пра Мікалая Васільевіча Букшту, першага і, напэўна, апошняга Героя Сацыялістычнай Працы, які нарадзіўся, жыў і працаваў на Івацэвіцкай зямлі. Пра слаўнага Механізатара, які аддаў працы на зямлі звыш 45 гадоў свайго жыцця і незаслужана забыты сёння.*

*Гэтыя нататкі пра простага сялянскага хлопца, які сваёй самаадданай працай заслужыў павагу і давер'е людзей. Пра Чалавека асаблівай дабрыні і чуласці, нястомнага Працаўніка, вялікага Хлебароба і дбайнага Гаспадара.*



# ГЕРОЙ З АЗЯРЦА

## 1. ГЭТА ТРЭБА ЖЫВЫМ

Азярцо — такая прыгожая назва вёскі, радзімы Мікалая Васільевіча Букшты. Размешчана за пяць кіламетраў на поўнач ад Івацэвічаў. Тут зараз 86 двароў, жыве 149 чалавек. Большасць з іх — пенсіянеры. Паблізу вёскі працякае рэчка Грыўда, якая ўпадае ў Шчару. Як бы там ні было, а пасяленне звязана з рэчкай. Людзі спрадвеку сяліліся бліжэй да вады. Там, у самым нізкім месцы, дзе знаходзілася былое балота, старажылы мяркуюць, што калісьці было невялікае азярцо з дрыгвяністымі берагамі. З цягам часу яно знікла, бо і рэчка памялела. А ў паводкавыя вёсны гэтае азярцо паяўлялася якраз насупраць вёскі, каб нагадаць пра сябе і потым зноў знікнуць. Так расказваюць людзі.

Перш чым папасці ў Азярцо, трэба праехаць ля сельскіх могілак, абнесеных агароджай і размешчаных ля самай дарогі, што вядзе да вясковага жытла. Павялося здаўна, што гэта святое і памятнае месца тут суседнічае з сялом і ніяк, як прызнаюцца самі азярчане, не азмрочвае жыцця тутэйшых жыхароў. Могілкі — пастаянны атрыбут вясковага побыту.

Свежыя магілкі, вянкі, кветкі. Помнікі новыя і старыя. Пафарбаваныя агароджы. Адчуваецца, што нашчадкі клапоцяцца пра сваіх памерлых родных, не забываюць іх.

Сярод высокіх сосны — магілы Мікалая Васільевіча і Ніны Васільеўны Букштаў, мужа і жонкі. Мікалай Васільевіч спачывае ўжо тут шосты год. Са здымка на помніку ён глядзіць на нас сур'ёзна і задуменна, з зоркай Героя на грудзях.

Ніна Васільеўна, якая памерла летась у жніўні, пахавана побач. Жоўты пясочак напамінае пра гэта. Праўда, помніка яшчэ тут няма. Але, як мне сказалі, сёлета ён, магчыма, будзе пастаўлены.

Калі гаварыць шчыра, то пры жыцці М. В. Букшту не забывалі. Акрамя ордэна Леніна і зоркі Героя Сацыялістычнай Працы, яго адзначылі ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі, былі граматы і падарункі. Нават прызначылі брыгадзірам трактарнай брыгады. Ніводная ўрачыстасць у раёне не абыходзілася без удзелу лепшага механізатара калгаса "Бальшавік".

У Беларускай савецкай энцыклапедыі (год выдання 1970, ІІ том, стар. 400) ёсць кароткія звесткі пра нашага земляка.

У 1978 годзе ў выдавецтве "Беларусь" выйшла кніжка "Зямныя зоркі" (на рускай мове), у якой змешчаны нарысы пра Герояў Сацыялістычнай Працы Брэсцкай вобласці. Ёсць тут нарыс "Самая высокая святыня" пра Мікалая Букшту. Аўтар В. Тураў.

Вядома, што на пахаванні Героя мясцовыя і раённыя кіраўнікі абяцалі не забываць яго, берагчы памяць. Міналі гады, але пра М. В. Букшту амаль не ўспаміналі. Хіба што толькі ў раённай кнізе "Памяць" (Івацэвіцкі раён). Праўда, усяго некалькі радкоў. На жаль, нават здымак Героя не змясцілі.

Затое ў гэтай жа кнізе знайшлося шмат месца для далёка не славутых землякоў. Напрыклад, для журналіста Л. С. Екеля (родам з вёскі Заполле, што паблізу Косава) — тры друкаваныя старонкі, для паэта У. В. Мароза (ураджэнца нашага раёна) — чатыры друкаваныя старонкі. Не паскупіліся выдаўцы з месцам у кнізе і для іншых такіх жа ўраджэнцаў Івацэвіцкага раёна.

Я, вядома, не супраць таго, што ў кнізе "Памяць" змясцілі пашыраныя звесткі пра названых і іншых землякоў. Крыўдна ад таго, што не аддалі належную даніну павагі і пашаны найперш самым вядомым і заслужаным людзям раёна і ў першую чаргу М. В. Букшце.

У вёсцы Азярцо, на радзіме М. В. Букшты, сіратліва стаіць яго пустая хата. Нішто нават не напамінае аб тым, што тут жыў Герой. У вёсцы Падстарынь, цэнтры калгаса "Бальшавік", дзе працаваў знакаміты механізатар, таксама няма нічога такога, што б не толькі чужому чалавеку, але і мясцовым жыхарам напамінала б пра славутага чалавека. Канешне, крыўдная недарэчнасць.

"А што ж родзічы Героя маўчалі і маўчаць? — запытаў у мяне знаёмы. — І дачка, і сын, выходзіць, таксама забылі пра бацьку. Не праяўлялі і не праяўляюць ніякай ініцыятывы, каб увекавечыць памяць роднага чалавека, а толькі затаілі крыўду на ўладу. Нездарма кажуць, хто не стукае, таму і не адчыняюць..."

Я згодзен з такой заўвагай свайго знаёмага. Таму мне, зусім староннямy чалавеку, але неабыякаваму да нашай гісторыі, яе знакамітых людзей, стала крыўдна, што сёння славутага земляка па сутнасці амаль забылі абодва бакі. Сэрца падказвае, што трэба хаця б штосьці зрабіць, каб увекавечыць памяць Мікалая Васільевіча Букшты. Бо Герой належыць не толькі аднавяскоўцам, вузкаму колу родзічаў. Ён належаў і належыць краіне. Яго ўзвысіла праца, яго падтрымалі сябры і аднадумцы. І пасля гэтага ён не мог, не меў права касьці падвесці. І ніколі не падводзіў. Быў заўсёды першым.

Калі я гутарыў з мясцовымі кіраўнікамі і задаваў ім адно і тое ж пытанне: "Як гэта атрымалася, што адзінага Героя ў раёне вы забылі і памяць яго не ўвекавечана?", то яны паціскалі плячамі і прызнавалі сваю віну.

Хіба ёсць нейкія перашкоды ці вялікія цяжкасці, каб, напрыклад, у той жа вёсцы Азярцо, радзіме Героя, назваць вуліцу яго імем? А можа яшчэ і ў іншым населеным пункце?

А ці не пара на доме М. В. Букшты ў вёсцы Азярцо адкрыць мемарыяльную дошку, дзе паведаміць аб датах жыцця нашага славутага земляка.

Мне здаецца, што варта было б падумаць аб тым, каб калгас "Бальшавік" (а гэта назва даўно ўстарэла і ўжо многім нагнала аскому) перайменаваць у калгас імя М. В. Букшты. Гэта, на мой погляд, было б справядліва.

Тут, у калгасе, за сваю самаадданую працу ён атрымаў самыя высокія ўрадавыя ўзнагароды краіны, іменна тут звыш 45 гадоў аддаў хлебаробскай справе.

Можна ўвесці ў гаспадарцы Мікалая Васільевіча Букшты імянныя працоўныя прэміі ці нейкія ўзнагароды, праводзіць у сельсавеце ці раёне розныя мерапрыемствы (турніры, спаборніцтвы, злёты, вечарыны і г. д.), прысвечаныя славутаму земляку.

5 ліпеня 2001 года М. В. Букшце споўнілася б 70 гадоў. Але ён пайшоў з жыцця загадзя да гэтай даты ўзросту мудрасці. Зрэшты, па ўспамінах тых, хто яго ведаў, мудрасці яму хапала. Вось аднаго ён толькі не ўмеў рабіць: берагчы сябе, здароўе.

Вельмі важна, каб людзі ведалі пра самых дастойных, пра самых славутых сваіх землякоў, якія складаюць нашу нацыянальную гордасць і славу. Ва ўмовах калгаснага ладу ён здолеў быць сапраўдным працаўніком на зямлі. У спісе такіх землякоў і павінен быць Мікалай Васільевіч Букшта. Бо памяць пра Героя трэба ўсім нам. І сёння, і заўтра, і праз многа гадоў. Як сказаў паэт, гэта трэба не мёртвым, гэта трэба жывым.

*Святаслаў **КАЖАДУБ**.*
*Фота Аляксея **ГАНЧУКА**.*
*Івацэвіцкі раён.*
**(Працяг будзе).**



*Дом Героя ў в. Азярцо.*




*Магіла М. В. Букшты.*

ВАША ПІСЬМО

# Усё зменлівае, а мова — вечная

Добры дзень, паважаная рэдакцыя "Газеты для вас"! Я вучуся ў 11 класе. Заўсёды з задавальненнем чытаю вашу газету. Лічу, што ў ёй асвятляюцца амаль усе бакі жыцця нашага рэгіёна. Для мяне найцікавейшымі тэмамі з'яўляюцца тыя, у якіх закранаюцца палітычныя і эканамічныя праблемы нашай дзяржавы. Асабіста я хачу паразважаць наконт мовы — пытанне, якое, праўда, прамога дачынення не мае да нашай эканомікі, аднак, на мой погляд, яно адно з важнейшых.

Цяпер наша краіна знаходзіцца ў цяжкім эканамічным крызісе. Мы, 17-гадовыя, пакуль нічога не можам зрабіць, каб дапамагчы ёй набыць моц. Але мы можам у іншым — можам зберагчы нашу мову, культуру, самасвядомасць.

Праўда, чамусьці ніхто з моладзі не задумваецца над тым, на якой мове мы размаўляем. Мы ведаем, што ў нашай краіне дзве мовы дзяржаўныя: руская і беларуская. У Расіі людзі размаўляюць па-руску, у Францыі — па-французску, у Польшчы — па-польску. Дык чаму ж беларусы на сваёй зямлі гавораць па-руску? Руская мова стала для іх роднай, а павінна, наадварот, быць замежнай. Беларускай мове ў нашым грамадстве адведзена нязначнае месца. Напрыклад, у школе ў 11 класе на родную мову, літаратуру і гісторыю Беларусі адведзена ўсяго пяць гадзінаў.

Вы скажаце, што зусім выкінуць рускую мову нельга, таму што для пэўнай часткі насельніцтва яна зрабілася роднай. Дык чаму, напрыклад, калі расіянін ці беларус трапляе ў ЗША, ён павінен авалодаць моваю гэтай краіны, інакш ён не будзе там зразуметы і жыць там не зможа. Чаму ў нас, на Беларусі, многія лічаць, што гаварыць пабеларуску — гэта нямодна, гэта абразліва? Амаль уся эліта нашага грамадства не лічыць патрэбным карыстацца роднай моваю, ёй падавай рускую.

Расія пасля распаду СССР не мае дзвюх дзяржаўных моў. Ніводная былая рэспубліка таксама не выбрала двухмоўе. Дзяржавы аберагаюць сваю мову і культуру, баяцца іх згубіць. А мы ж яе губляем. І не толькі мову.

Каб адрадзіць беларускую мову, патрэбны свежыя сілы, а знайсці іх можна толькі ў моладзі. Гэта тая частка насельніцтва, якая глядзіць на ўсё з іншага боку, ацэньваючы ўсё па-новаму. Пра сваю будучыню мы павінны дбаць самі, але на цяперашні час перад намі зачынены амаль усе дзверы. На жаль, і моладзь цяпер нейкая інфантыльная, змагацца не хоча. Але вырашыць адно, хаця б адно пытанне, мы можам. Цікава, як лічаць мае равеснікі?

*Таццяна **ЛЯШЧУК**,*
*вучаніца 11 "Б" класа*
*СШ № 1 г. Івацэвічы.*

ЗДАРЭННІ

# Выбух сярод белага дня

Прыкладна ў 12 гадзін непадалёку 2-га Прыгараднага завулка 45-гадовы З. і 40-гадовы К. знайшлі жалезную балванку і паспрабавалі яе разабраць. Пасля іх маніпуляцый прагрымеў выбух. Дваіх пацярпелых машына хуткай дапамогі даставіла ў бальніцу. Абодва мужчыны ў стане посттраўматычнага шоку. У старэйшага — мноства раных ран, пераломы касцей рук і рэбраў, апёкі; у другога — моцныя апёкі твару, шыі, вачэй і касцей рук.

*Галіна **СТРОЦКАЯ**.*
*г. Баранавічы.*

# ГАНАРОВЫ І СУМНЫ "ТРЫУМФ" ВАСІЛЯ БЫКАВА

Злачынства стагоддзя. Так назваў саюз Расіі і Беларусі народны пісьменнік РБ Васіль Быкаў.

Другі год ён жыве ў невялікім доме ў ваколіцах Хельсінкі — сталіцы Фінляндыі. Той самай Фінляндыі, якая пасля кастрычніцкага перавароту ў 1917 годзе была самай адсталай ускраінай Расіі. Аддзяліўшыся ад імперыі зла, фіны чамусьці, нягледзячы на суровыя кліматычныя ўмовы і адсутнасць багатых прыродных рэсурсаў, не шукалі братэрскай падтрымкі ў Расіі, не захацелі вяртацца пад апеку рускіх правадыроў. Яны самі змаглі без асаблівых ахвар дабіцца зайздросных поспехаў у сацыяльнай абароне правоў і свабод грамадзян сваёй краіны. Паглядзіце, як жывуць фіны і як беларусы. Параўнайце.



Зразумець, чаму вялікі пісьменнік часова эмігрыраваў, можна. Сумленная душа В. Быкава не вытрывала таго шквалу хлусні і крывадушнасці, якімі прасякнута ўся дзейнасць дзяржаўных структур зверху да нізу. У нас, маўляў, усё цудоўна: будуюцца лядовыя палацы, своечасова выплачваюцца зарплата і пенсіі, праводзяцца культурна-масавыя мерапрыемствы кшталту "Дажынкі" і "Залаты шлягер", прэзідэнт, урад і ўлады "денно и нощно" клапоцяцца пра народ... Што гэта за клопат такі, скажыце, калі больш за палову насельніцтва краіны жыве за рысай беднасці?

Васіль Быкаў спадзяваўся на адраджэнне беларускай нацыі, аднак саюз з Расіяй паставіў крыж на гэтым працэсе. Шанц, дадзены гісторыяй, не выкарыстаў талерантны беларускі народ. З яго маўклівай згоды інтэгратары працягваюць аб'ядноўваць неаб'яднанае: фінансы, эканоміку, палітычныя прыярытэты.

Акурат напярэдадні падпісання чарговай дамовы аб саюзе Расіі з Беларуссю Васілю Быкаву прысудзілі прэстыжную расійскую прэмію "Трыумф" — так высока адзначана творчасць і грамадзянская пазіцыя майстра слова. Любая краіна магла б ганарыцца такім чалавекам, толькі не афіцыйны Мінск.

Беларускае тэлебачанне ў асобе тэлевядучага, вернападданага каментатара Ю. Казіяткі і вопытнага партыйнага кадра М. Сеўрука, адпрацаваўшага шмат гадоў у апараце ЦК КПСС, вялі нікчэмную размову пра творчасць Васіля Быкава, палівалі яго брудам і зневажалі. Заадно прыплялі яму БНФ, Пазьняка, сораўскія "баксы", Захад і "происки империализма". Бязглуздзіца нейкая.

Не спадабалася інтэрв'ю В. Быкава, дадзенае Расійскаму тэлебачанню, дзяржаўнаму дзеячу С. Посахаву. Бачыце, не трэба было пісьменніку гаварыць рэзка і праўдзіва пра саюз Расіі з Беларуссю.

Як тут не ўспомніць бессмяротнага І. А. Крылова, яго славутую моську, якая ад зайздрасці і злосці заходзілася ад брэху на велікана-слана.

Васіля Быкава чытае ўсёй свет, па яго кніжках вывучаюць Вялікую Айчынную вайну. Гэта імя — з энцыклапедый і падручнікаў. А хто такія Ю. Казіятка, М. Сяўрук і С. Посахаў? Так, службісты вялікай прапагандысцкай машыны. Ніхто і не заўважыць, як іх растопча той рэжым, якому цяпер яны аддана служаць. Трапна і ёміста сказала на гэты конт газета "Свободные новости": "... Он ведь Быков, Быковым и останется в истории. Не то что вы — номенклатурная пыль, которую когда-нибудь сдует ветерком с хозяйского стола".

Адна з апошніх апавесцей Васіля Быкава называецца "Труба". Сюжэт такі: нейкага мужыка заганяюць у трубу, ён паўзе, паўзе і паўзе. І не бачна канца, не бачна ніводнага праменьчыка святла. Ці не нагадвае гэты мужык нас, беларусаў?

*Аляксандр ЛАЎРАНЮК.*

## Православный календарь на февраль 2000 года

**5** — Собор Костромских святых.
**6** — Блж. Ксении Петербургской (XIX).
**7** — Свт. Григория Богослова, архиеп. Константинопольского (389). Сщмч. Владимира, митр. Киевского и Галицкого (1918). Иконы Божией Матери "Утоли моя печали".
**9** — Перенесение мощей свт. Иоанна Златоуста (438).
**11** — Перенесение мощей сщмч. Игнатия Богоносца (107). Свт. Лаврентия, Затворника Печерского, еп. Туровского (1194).
**12** — Собор Вселенских учителей и святт. Василия Великого, Григория Богослова и Иоанна Златоустого.
**13** — Собор новомучеников и исповедников Российских: свт. Тихона; патр. Московского и всея Руси (1925), сщмч. Петра, митр. Крутицкого (1937), сщмч. Владимира, митр. Киевского и Галицкого (1918), сщмч Вениамина, митр. Петроградского и Гдовского, и иже с ним убиенных сщмч. архим. Сергия и мчч. Юрия и Иоанна (1922), сщмч. митр. Серафима (1937), сщмч. архиеп. Фаддея (1937), сщмч. протоиерея Иоанна (1917), сщмч. протопресвитера Александра (1937), прмц. вел. кн. Елисаветы и инокини Варвары (1918).
Поминовение всех усопших, пострадавших в годину гонений за веру Христову.
**15** — Сретение Господа нашего Иисуса Христа. Двунадесятый праздник.
**16** — Равноап. Николая, архиеп. Японского (1912). Свт. Симеона, еп. Полоцкого, еп. Тверского (1289).
**18** — Свт. Феодосия. архиеп. Черниговского (1696).
**20** — Неделя о мытаре и фарисее.
**21** — Седмица сплошная (21—26 февраля).
**22** — Отдание праздника Сретения Господня. Обретение мощей свт. Иннокентия, еп. Иркутского (1805).
**24** — Прп. Димитрия Прилуцкого, Вологодского (1392).
**25** — Иверской иконы Божией Матери. Свт. Алексия, митр. Московского и всея России чудотворца (1378). День тезоименитства Святейшего Патриарха Московского и всея Руси Алексия II.
**27** — Неделя о блудном сыне. Равноап. Кирилла, учителя Словенского (869).

*МІЛАСЭРНАСЦЬ*

## Хай не збяднее рука таго, хто дае

Свабодны прафсаюз прадпрымальнікаў г. Баранавічы правёў дабрачынную акцыю. Па яго ініцыятыве сярод калег па бізнесу і грамадскіх арганізацый горада сабрана 5 тысяч долараў, за якія набыты падарункі для выхаванцаў Югалінскай і Гарадзішчанскай школ-інтэрнатаў, жыхароў Ляснянскага дома для састарэлых, малазабяспечаных сем'яў у райцэнтры.

Цёпла сустрэлі гасцей дзеці Югалінскай школы-інтэрната Івацэвіцкага раёна. Усе яе 126 выхаванцаў атрымалі гасцінцы, у якіх ляжалі розныя слодычы і пісьмовыя прылады.

Па словах прадпрымальніцы В. Малаткоўай, якая ўдзельнічала ў дастаўцы дабрачыннай дапамогі, бязрадаснае ўражанне засталося ад наведвання дома для састарэлых у Лясной. Рамонт тут зроблены толькі на першым паверсе, у корпусе стаіць невыносны смурод. Старыя самотныя людзі ўпершыню ў жыцці пабачылі апельсіны і ўсё дапытваліся ў гасцей, ці можна іх есці ў сырым выглядзе і што рабіць з лупінамі — есці ці выкідваць. Узнікае пытанне: няўжо нашай дзяржаве няма справы да нямоглых старых і яна не ў сілах паклапаціцца пра тое, каб гэтыя няшчасныя людзі змаглі дажыць свой век у нармальных умовах?

У выхаванцаў Ястрамбельскай школы-інтэрната Баранавіцкага раёна пабывалі прадстаўнікі Хрысціянска-дэмакратычнага саюза Германіі. Яны прывезлі дзецям ад нямецкіх сем'яў пасылкі з канцылярскімі таварамі, пасцельнымі рэчамі, спартыўным інвентаром.

Як дарагіх гасцей выхаванцы і педагогі Целяханскай школы-інтэрната Івацэвіцкага раёна сустракалі прадстаўнікоў дабрачыннай арганізацыі "Гінесміндэ Вэрнер" з Даніі. Яе кіраўнік, фермер па прафесіі Дэн Дзісінг-Метцэн і яго аднадумцы даўно падтрымліваюць сувязі з целяханцамі. На гэты раз яны прывезлі цэлы грузавік гуманітарнай дапамогі. Маленькія выхаванцы атрымалі мяккія цацкі, старэйшыя — вопратку. І ўсе па падарункаваму набору з пернікамі, апельсінамі, цукеркамі, тартамі ды іншымі заморскімі ласункамі.

*Алесь САШЫН.*

*НА ХВАЛІ СУСВЕТУ*

## Карабель на арбіце

З касмадрома "Байканур" ажыццёўлен запуск аўтаматычнага грузавога карабля новай серыі "Прагрэс М1-1" да станцыі "Мір". Усяго ў лютым Расія зробіць пяць запускаў касмічных апаратаў з гэтага касмадрома.

*"Известия".*

## ПАСЕ осуждает Россию

Делегаты Парламентской ассамблеи Совета Европы приняли резолюцию, дающую России 3 месяца на улучшение ситуации с соблюдением прав человека в Чечне и осуждающую применение силы против мирных жителей республики. Резолюция не лишает Россию права голоса в ПАСЕ, однако Ассамблея вернется к рассмотрению этого вопроса, если до апреля не будет найдено политическое решение конфликта в Чечне. Генеральный секретарь ООН Кофи Аннан призвал Россию как можно скорее положить конец войне в Чечне и уделить больше внимания защите прав мирных жителей республики. Аннан сделал это заявление во время встречи в Москве с председателем Совета Федерации Егором Строевым.

*"Ассошиейтед пресс".*

## Барадзін адмаўляе

Дзяржаўны сакратар Саюза Расіі і Беларусі, былы кіраўнік справамі прэзідэнцкай адміністрацыі Павел Барадзін лічыць палітычнай правакацыяй паведамленне пра выдачу швейцарскай пракуратурай ордэра на яго арышт. Барадзін заяўляе, што ніколі ў жыцці не бачыў супрацоўнікаў швейцарскай пракуратуры і не атрымліваў з гэтага ведамства якіх-небудзь папер. Як піша французская газета "Ле Монд", ордэр на арышт Барадзіна выдаў швейцарскі суддзя Даніэль Дэво — па абвінавачванні ў крадзяжы грашовых сродкаў з дзяржбюджэту Расіі і "адмыванні" гэтых грошай у банках Швейцарыі.

*Радыё "Свабода".*

## Катастрофа кенийского лайнера

Аэробус А-310, принадлежавший кенийской авиакомпании Kenta, вылетел из города Абиджан. Погодные условия, как передают, были хорошие. По свидетельству очевидцев, уже через минуту после взлета загорелся один из двигателей, а самолет рухнул в воды Атлантического океана. По словам авиадиспетчера, авиалайнер не смог набрать высоту и хотел развернуться.

На борту А-310, выполнявшего рейс 431, находились 169 пассажиров и 10 членов экипажа. Спасено 8 человек. Причины катастрофы пока неизвестны.

*"Рейтер".*




## Древнейшая профессия в Москве процветает

Около 70 тысяч человек вовлечено в занятие проституцией в Москве, сообщил начальник отдела по борьбе с преступлениями и правонарушениями в сфере общественной нравственности ГУВД столицы Виктор Егорин.

По его словам, подразделениями УВД Центрального административного округа (ЦАО) в 1999 году было задержано и доставлено в дежурные части 68453 женщины, подозреваемые в занятиях проституцией, в том числе 37 несовершеннолетних.

Из общего количества задержанных женщин "легкого поведения" доля жителей России составляет лишь 56 процентов, сообщил Виктор Егорин, в том числе Москвы и Московской области — 20 процентов. Среди проституток, "работающих" в российской столице, немало гражданок Украины, Беларуси, Молдовы и других государств СНГ.

*ИТАР-ТАСС.*

## Курылы трасе

Землятрус паражыў адзін з Курыльскіх астравоў — Кунашыр, размешчаны на мяжы Расіі і Японіі. Расійскія ўлады паведамілі аб невялікіх разбурэннях, пацярпелых няма.

*"Інтэрфакс".*

